БЕЛАРУСЬ — ГЭТА СЬВЯТОЕ

# МАЛАДЫ ФРОНТ

№ 3, КРАСАВІК, 1999. Выдаецца маладзёвай арганізацыяй МАЛАДЫ ФРОНТ.

ПАДЗЕЯ

## ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ СТАНЕ БОЛЬШ?

*Яўген Скочка – "тэрарыст"*

СТАР. 2

ЗАМЕЖЖА

## СПОРТ, ВАЙНА Й ПАЛІТЫКА

*Харвацкія фаны ваюють з прэзыдэнтам Туджманам*

СТАР. 4

ІНТЭРВІЮ



**Выйшаў на волю Аляксей Шыдлоўскі. З гэтай нагоды добра было б сказаць: "Завяршыўся цэлы этап нашай барацьбы"... Папраўдзе, нічога не завяршылася. Беларусь, як і паўтары гады таму, усё яшчэ на гістарычным зломе (ці "ў ломцы"). Пад бокам тая ж ганарыстая й бедная, бедная Расея. На нашых сяброў усё з той жа ўпартасьцю заводзяць крымінальныя справы... Але для нас вяртаньне Аляксея – сапраўды вялікая радасьць. Для нас ён – чалавек, пра якога мы столькі чыталі й думалі, якому пісалі лісты і на месцы якога мог апынуцца амаль кожны з нас.**

# Аляксей ШЫДЛОЎСКІ:

# У ТУРМЕ МЯНЕ ПАДТРЫМЛІВАЛІ...

**– Аляксей, свае 19 і 20 гадоў табе давялося сустракаць у турме...**

– Так. Але цяжка было ня столькі сустракаць там свае дні народзінаў, колькі проста вясну. Усё ж такі – прырода ажывае, дзесьці там на волі дзяўчаты. А ты ўсяго гэтага ня бачыш. У мяне дзень народзінаў узімку, дзесьці перад самым Новым годам: ідуць сьвяточныя падрыхтаваньні, адчуваецца, у прынцыпе, нейкае сьвята – паводле турэмных меркаў, канешне.

**– Тыя паўтары гады, што ты быў у турме для цябе час набыткаў ці стратаў?**

– Я не лічу гэты час страчаным і нічога б не мяняў. Гэтым часам можна згуляць на пэрспэктыву, калі разумна выкарыстаць. Калі ж не – то тады й атрымаецца васямнаццаць страчаных месяцаў.

**– Наколькі зьмяніўся за гэты пэрыяд ты сам, тваё ўспрыняцьцё сьвету, людзей?**

– Ведаеш, турма добра вучыць псыхалёгіі. Пачынаеш разьбірацца ў людзях... Увогуле, я пасталеў. Праўда, зараз мне крыху цяжка. Неяк адчуваю сябе чужым у новым асяродку. Але, думаю, усё гэта трэба сьпісаць на адаптацыю. Пакуль што так. А далей – паглядзім.

**– Ці было да цябе нейкае асаблівае стаўленьне, як да палітычнага, з боку турэмнай адміністрацыі ды з боку тых, хто сядзеў?**

– Адміністрацыя ўвесь час прыціскала. Асабліва ў зоне, у калёніі. А ад вязьняў я адчуваў падтрымку. Я пісаў лісты ў газэты, дзе апавядаў і пра тое, што тут творыцца, як парушаюцца правы людзей. Яны ўсё гэта разумелі й таму дапамагалі хто чым мог... Гэта ў сталінскія часы палітычных зэкі рэзалі, білі. А зараз усё наадварот.

**– Зь якімі людзьмі ты быў?**

– Там сядзяць людзі, пакараныя за самыя розныя злачынствы: і забойцы, і гвалтаўнікі, і рабаўнікі. А найболей, канешне, "крадуноў" – тых, якія цягаюць буракі, "бяруць" вясковыя крамы.

**– Што такое сучасная беларуская турма?**

– Сучасная... Гэта поўнае падпарадкаваньне міліцыянтам. Гэта 30% стукачоў. Неабмежаваная ўлада адміністрацыі... Усё гэта пачалося, дарэчы, з 1994 году. Аляксандар Рыгоравіч прыйшоў да ўлады, і тады зрабілі "чырвонай зонаю" Менск, стварылі Жодзінскую турму. Страшную.

**– Што табе найбольш запомнілася з турэмнага жыцьця?**

– Магу распавесьці пару выпадкаў, якія былі ў Жодзінскім сьледчым ізалятары... Падчас вечаровай і раніш-няй праверкі, калі кантралёр заходзіць у камэру, вязьні мусяць здароўкацца ўголас, прычым адначасова. Аднойчы мы павіталіся ўразнабой. Кантралёр загадаў нам паўтарыць. Паўтарылі – таксама няўдала. Пасьля гэтага ён проста выйшаў моўчкі. Праз некаторы час у камэру ўваходзяць міліцыянты з сабакам (начапілі яму вушанку міліцыянцкую, падвязалі), і пачынаюць торгаюць жывёліну. Сабака брэша, а мы ўсёй

Працяг на стар. 2

ІНТЭРВІЮ

# Аляксей ШЫДЛОЎСКІ: У ТУРМЕ МЯНЕ ПАДТРЫМЛІВАЛІ...

Пачатак на стар. 1 камэрай: “Здрасьте, гражданин начальник!”. І так доўжылася паўгадзіны... Ці яшчэ адна гісторыя. Калі міліцыянты заходзяць у камэру й чамусьці лічаць, што там брудна, то звычайна робяць такую рэч: выганяюць усіх з камэры, ставяць на “расьцяжку”, і пакуль у калідоры вязьняў прафіляктычна б'юць, заліваюць камэру халоднай вадой па самы ганак (5-6 см). А потым нас босымі запускаюць назад, і мы, ходзячы па вадзе, вычэрпваем яе кубкамі для гарбаты (бо іншага начыньня няма) і выліваем ва ўнітаз.

**– Вязьні падтрымліваюць адзін аднаго?**

– Увогуле, у сьледчым ізалятары я імкнуўся трымацца адзін. Так было болей часу, мог пісаць нешта. А ў зоне ўжо знайшліся людзі – там шмат народу сядзіць. Было 5-6 чалавек, зь якімі можна сустрэцца, штосьці спытаць, папрасіць, калі нешта трэба.

Было, канешне, і станоўчае. Перадусім тое, што я знайшоў там сабе сяброў і зараз ліступося зь імі. Мяне там падтрымлівалі. Меў з кім паразмаўляць па-беларуску – два чалавекі. Праўда, адзін зь іх сядзеў далёка, таму цяжка было мець стасункі.

Той жа Валодзя Кудзінаў... Сустрэчы зь ім шмат чаму мяне навучылі.

**– А як вы сустракаліся?**

– Мы бачыліся раз ці два на месяц. Напрыклад, папярэдне дамовімся, і ён запішацца ў санчастку на 8:30. Я таксама запісваюся на гэты час. Там у нас ёсьць хвілінаў 15-20 паразмаўляць. Ён працаваў тады брыгадзірам на прадпрыемстве “Вімсар” (дарэчы, на Кальварыйскай ёсьць крама, у якой прадаецца мэбля, зробленая зэкамі. Прычым, прадаецца даволі дорага, а зэкам, фактычна, нічога ня плацяць. Напрыклад, я зарабляў 200 тысячаў у месяц). Я таксама быў на дрэваапрацоўцы й заходзіў да Кудзінава быццам бы да свайго начальніка, мы зь ім размаўлялі. Аднойчы гэта заўважылі, пад самае завяршэньне майго тэрміну. Мяне ўжо не чапалі, а вось яго пазбавілі перадачы.

**– А што думаюць вязьні пра сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі? Якія там пануюць настроі?**

– Увогуле, тых людзей, якія б падтрымлівалі Аляксандра Рыгоравіча, у месцах пазбаўленьня волі быць ня можа – хаця б таму, што яны сядзяць пры гэтай уладзе. Але зараз, сапраўды, умовы ў турмах вельмі цяжкія, загружанасьць зоны такая, якой не было нават у савецкія часы. Садзяць і садзяць. Кожны тыдзень да нас прыяжджала па 50 чалавек, а вызвалялася максымум 10. Усе скрайне не-




Прэс-канфэрэнцыя з нагоды вызваленьня Аляксея Шыдлоўскага. На здымку (зьлева направа) тры былыя палітвязьні: Павал Севярынец, Аляксей Шыдлоўскі, Вадзім Лебковіч, чацьвёрты – “тэрарыст” Яўген Скочка – патэнцыйны (чытай матэр'ял справа).

## ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ СТАНЕ БОЛЬШ?

На аднаго з кіраўнікоў Маладога Фронту, Яўгена Скочку, узбуджаная крымінальная справа. Пракуратура, відаць, ніяк ня можа забыцца на ўрачысты салют 14 лютага, у Дзень сьв. Валянціна. Нагадаем, што падчас сьвяточнага шэсьця, якое ладзіў МФ у горадзе-герої Менску, сапраўдным фаерверкам выбухнула 30-кіляграмовая скрыня з пэтардамі. Цяпер Яўгену інкрымінуюць артыкул 186 ч. 3 (арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, што парушаюць грамадзкі парадак), паводле якога прадугледжанае пакараньне да 3 гадоў пазбаўленьня волі.

С. Т.

**Паводле апошніх зьвестак “справу Скочкі” ўзяў пад кантроль КГБ. “Ворганы” паабяцалі таксама прад'явіць намесьніку старшыні МФ абвінавачаньне ў тэрарызме.**

**Ул. Інф.**

задаволеныя, хаця актыўнасьці ў гэтым пляне там не праявіш – гэта забаронена.

**– Улада, безумоўна, можа і не падабацца, але што значыць для гэтых людзей сама Беларусь?**

– Тут ужо цяжэй. Яны, канешне, хочуць жыць як у Эўропе, але калі гэта будзе краіна, аб'яднаная з Расеяй, то пры добрых умовах жыцьця (каб была і шкварка і чарка) зэкі ня будуць супраць. Канешне, ня ўсе, але працэнтаў восемдзесят.

**– А падтрымку з волі ты адчуваў?**

– Так. Найбольш – лістамі. Хаця, ня ўсе лісты даходзілі, шмат зьнікала. Вельмі падтрымлівалі мяне бацькі.

**– Аляксей, якім ты ўбачыў Малады Фронт праз паўтары гады і якім бы ты хацеў яго бачыць?**

– Шмат зьмянілася. Старых людзей, каго я добра памятаю, я налічыў пакуль што шэсьць чалавек. Астатніх – я нікога не пазнаю, і мяне ніхто не пазнае. Але ж людзі ня проста так сыходзяць – яны кудысьці йдуць. А значыць, нечым тут не задаволеныя. Ня ведаю... Зараз я маю пасаду, я намесьнік старшыні, ёсьць магчымасьць уплываць на сытуацыю. Трэба думаць і працаваць. Увогуле, спадзяюся на спорт. Можна арганізоўваць футбольныя, баскетбольныя ці нейкія іншыя турніры, сабраць каманду "Малады Фронт". Знайсьці грошы. Шмат што можна і бясплатна рабіць. А гэта ўжо рэклама, і людзям будзе чым заняцца.

**– А што ж вулічная дэмакратыя, масавыя акцыі?**

– Ранейшая актыўнасьць, безумоўна, зьнізілася. Але акцыі трэба праводзіць, і пікеты, і шэсьці. Бо якраз гэтак зьяўляюцца новыя людзі, прычым вялікая частка. Трэба болей даваць рэкламы акцыяў, раней яе пачынаць. Я згадваю, на якім узроўні была такая рэклама вясной 1996-га. На парадак вышэйшая за тую, што мы маем зараз. Ня трэба губляць добры досьвед. А ўвогуле, у дзейнасьці Маладога Фронту павінныя існаваць самыя разнастайныя кірункі. Зараз пераважае культура, але ўсё мусіць быць ураўнаважана, інакш людзі будуць сыходзіць. Я думаю, мы прыйдзем да таго, што ўсё зарганізуецца й стане на свае месцы.

**Размаўляў**
**Аляксей ШЭІН**

МЕРКАВАНЬНЕ

# ЧАС ДЗЕЙНІЧАЦЬ!

**Аляксей ФРАЛОЎ**

**Шаноўныя сябры, ці часта вы задумваліся – дзеля чаго мы жывем? Дзеля чаго Бог прывёў нас на гэтую зямлю, даў нарадзіцца менавіта тут, на шматпакутнай, але дзівоснай зямлі Беларусі?**

Чаму Магутны Божа распарадзіўся так, што менавіта мы, адзіныя з усяго сьвету, атрымалі сьвяты Хрыстоў штандар як наш родны гістарычны нацыянальны сьцяг?

Пан Бог даў нам усё, каб мы пачуваліся шчасьлівымі на гэтай зямлі й дзякавалі Яму.

І дзівосная зямля з крынічнымі водамі, і гераічная гісторыя, і вялікая культурная спадчына, і таленты-геніі, што пайшлі з нашай зямлі па ўсім сьвеце.

І даў Бог народу свабоду й незалежнасьць, веру й любоў.

А што ж народ? Што мы з вамі? А мы, скажам шчыра, – народ лукавы!

Замест таго, каб сумленна несьці сьвятло праўды, сьцяг беларушчыны, некаторыя толькі рэалізуюць свае амбіцыі й служаць сваёй ганарлівасьці, займаюцца інтрыгамі й пустой балбатнёй. А іншыя проста пасыўна назіраюць, абыякава й бяздушна. І гэта ня проста лянота! І не ППРБ – Лукашэнка А. Г. перашкаджае нам жыць шчасьліва, свабодна, па-эўрапейску, а лукавы ўнутры нас.

Загляніце ў люстра свае душы! Ці шмат людзей у нас шчыра могуць сказаць "Ахвяруем табе мы сабою, кожны дзень, кожны час, Беларусь"? Ці шмат у нас людзей, якія, ламаючы страх, узносілі сьвяты бел-чырвона-белы сьцяг, як легендарны Мірон? Ці багата такіх герояў, як Лабковіч і Шыдлоўскі? Ці шмат хто з маладых, забываючыся на свае асабістыя справы й задавальненьні, гадзінамі прастойваюць у пікетах – і не за каўбасу ж, за свабоду стаяць? Ці без наракальняў разносяць бясконцыя ўлёткі, якія таксама вельмі патрэбныя? А можа, на Верхні горад у Менску выйшла цэлая грамада дужых хлопцаў і прыгожых дзяўчат, ды, узяўшыся за рукі, абараніла чарговы старадаўні будынак ад зьнішчэньня? А калі мы патрапім на міжнародны летнік, дык ці многія змогуць файна прасьпяваць свае нацыянальныя песьні, і, як іншыя нармальныя народы, прыстойна выглядаць на міжнароднай арэне?

А то ж бываюць у беларусаў выпадкі, калі нормаю зьяўляецца беспрабудны алькагалізм ды тыповае савецкае хамства.

Урэшце, чаму ў некаторых маладафронтаўцаў беларускасьці хапае толькі на фронтаўскія тусоўкі, а на вуліцы, у краме, транспарце, унівэрсытэце мы як хамэлеоны прыстасоўваемся пад расейшчыну?

Што, сьмеласьці не стае?!

А тымчасам школьнікам даюць тэму сачыненьня: "Россия, Беларусь – братья-славяне", ад беларускіх клясаў не застаецца й сьледу. Ідзе зьнішчэньне ўсяго беларускага ды плянамерна рыхтуецца поўная акупацыя краіны Расейскай імпэрыяй.

І хутка можа наступіць час, калі на нашай сьвятой зямлі запануюць новыя расейскія бандыты, старыя гэбэшныя душагубы й фашыстоўска-імпэрская чума. Калі мы гэта дапусьцім – гісторыя й наступныя пакаленьні нам не даруюць.

Цяпер прыйшоў час змагацца за свабоду. Час пайсьці шляхам асабістага духоўнага ачышчэньня, сымбалем якога ёсьць наш бел-чырвона-белы сьцяг.

Час несьці паходню адраджэньня іншым людзям. Час дзейнічаць!



ЗАМЕЖЖА

# СПОРТ, ВАЙНА Й ПАЛІТЫКА

*Харвацкія фэны ваююць з уладамі з-за назвы галоўнага клюбу краіны*


Харватыя. Стадыён "Максімір", 1990 г.

**Футбольныя матчы ў краінах былой Югаславіі яшчэ да развалу апошняе набылі рысы ня столькі спартовых спаборніцтваў, як выбухаў міжэтнічнае напружанасьці ды палітычнае барацьбы. У той час, як fan-clubs сэрбскіх камандаў *Партизан* і *Црвена Звезда* (Чырвоная зорка) апынуліся пад уплывам панславісцкіх і сэрбскіх шавіністаў, прыхільнікі харвацкіх *Dinamo* (Заграб) ды *Hajduk Split* (Спліт) сталі на пазыцыі харвацкага нацыяналізму.**

Клюб фанаў *Dinamo* пад назвай *Bad Blue Boys* (назва паходзіць ад клюбнага сіняга колеру), альбо папросту *BBB* стаўся найагрэсіўным скрылом харвацкага нацыянальнага супраціву напрыканцы 80-х і напачатку 90-х гадоў. Фаны актыўна ўдзельнічалі ў палітычнай кампаніі пранезалежніцкага Харвацкага Дэмакратычнага Зьвязу (*HDZ*) на чале з Франьё Туджманам у першых дэмакратычных выбарах у Харватыі (тады яшчэ югаслаўская рэспубліка), яны сталі ў шэрагі дабрахвотнікаў Харвацкае Нацыянальнае Гвардыі, калі, пасьля абвяшчэньня рэспублікай незалежнасьці, югаслаўскае войска напала на яе з мэтай тэрытарыяльнага падзелу.

Зрэшты, як сьцьвярджаюць самі сябры *BBB* для іх вайна пачалася трохі раней. 13 траўня 1990 году на стадыёне Максімір падчас сустрэчы бялградзкіх "чырвоных зорак" з *Dinamo* адбылася бойка паміж сэрбскімі й харвацкімі фанамі, агулам у якой удзельнічала блізу трох тысячаў чалавек. Брутальная бойня, што йшла на трыбунах ды на полі, жыўцом трансьлявалася праз тэлевізію й працягвалася амаль гадзіну, пакуль паліцыя не атрымала некалькі спэцаддзелаў падмацаваньняў.

Цікавая дэталь: лідарам "чырвоназорных" на той час быў Жэлька Разнатавіч (мянушка – Аркан), які пазьней стаў камандзерам сэрбскай узброенай групоўкі ў Босьніі й адзначыўся ў гвалтаваньнях і катаваньнях жанчынаў ня сэрбскае нацыянальнасьці.

У хуткім часе югаслаўскія танкі ўзрэзалі зямлю Славоніі (памежная з Сэрбіяй усходняя частка Харватыі), заблякавалі гарады Вукавар і Дуброўнік. Процістаяла югаслаўскаму войску сьпехам арганізаваная з дабрахвотнікаў гвардыя. Сьпярша ў харвацкіх жаўнераў не было нават апазнавальных знакаў, і сябры *BBB*, якія амаль у поўным складзе пайшлі на вайну, выкарыстоўвалі замест іх нашыўкі *Dinamo*.

Сёньня з заходняга боку стадыёну Максімір стаіць помнік тым фанам, якія загінулі падчас вайны. На ім напісана: "Усім фанам *Dinamo*, для якіх вайна пачалася на стадыёне Максімір 13 траўня 1990 году, і якія скончылі яе паклаўшы свае жыцьці на аўтар Харвацкае Айчыны."

Вайна скончылася, але праблемы працягваюцца. Тыя, хто галасаваў за Франьё Туджмана пралічыліся. Былы генэрал югаслаўскага войска, як і ўсе нашчадкі камуна-намэнклятуры мае надта слабое ўяўленьне пра дэмакратыю й свабодны рынак. Не дасягнуўшы вялікіх посьпехаў у адбудове заможнае Харватыі, Туджман вырашыў адыграцца на спорце – пачаў умешвацца ў справы найбуйнейшых хакейных ды футбольных клюбаў краіны, асабіста загадваў каго з футбалістаў трэба адпраўляць на чэмпіянат сьвету і г.д. – падобныя паводзіны знаёмыя ўсім беларусам на прыкладзе свайго ўласнага дыктатара. Але такая тактыка сябе не апраўдала – пасьля выдатнага выступу каманды краіны на чэмпіянаце ў Францыі грамадзяне былі задаволеныя сваімі футбалістамі, а рэйтынг прэзыдэнта працягваў падаць.

У запале Туджман зрабіў істотную памылку, памеры якой сьпярша мала хто здолеў ацаніць: ён загадаў перайменаваць заграбскі *Dinamo* ў *Croatia*, аргумэнтуючы гэта тым, што, маўляў, усялякіх "дынамаў" поўна па ўсёй Усходняй Эўропе. Сябры *BBB*, проста балельшчыкі й большыня жыхароў Заграба адмовіліся прызнаваць новую назву, і ўпарта працягваюць выкарыстоўваць звыклае *Dinamo*. Прэзыдэнт, які таксама не хацеў саступаць, абвесьціў, што не скасуе сваёй пастановы – сказана *Croatia*, значыцца так і будзе. І тут, здавалася б, зусім не палітычнае пытаньне вырасла ў супрацьстаяньне нацыя–прэзыдэнт. Папросту харваты стаміліся ад самадурства свайго дзяржаўнага кіраўніка і гэтая апошняя кропля перапоўніла іхнае цярпеньне.

Атмасфэра вакол стадыёну пача-


Харвацкі прэзыдэнт Франьё Туджман на футбольным матчы

ла накаляцца, *BBB* падчас і пасьля заканчэньня кожнага матчу патрабавалі вярнуць назву клюбу, асьвіствалі Туджмана, варта было яму зьявіцца ў сваёй лёжы. У адказ улады ўзмацнілі ахову стадыёна й абрынулі на галовы фанаў рэпрэсіі: плякаты й сьцягі *Dinamo* пачалі канфіскоўваць на ўваходзе, балельшчыкаў арыштоўваюць і зьбіваюць, засуджваюць. Дахаты да найбольш актыўных сябраў *BBB* з мэтай запалохваньня наведваюцца паліцыянты. Наступным крокам стала стварэньне пра-прэзыдэнцкай арганізацыі футбольных балельшчыкаў. А праз урадавую прэсу было абвешчана, што *BBB* падкуплены апазыцыйнымі партыямі. Почырк ізноў-ткі ўсім нам знаёмы.

Тымчасам, рэйтынг апазыцыі дасягнуў ужо, паводле апошніх апытаньняў, 60%. Падобна на тое, што Туджман са сваёй камандай прайграе наступныя выбары. Хутчэй за ўсё *Dinamo* атрымае сваю родную назву, а *BBB*, якія, пасьля здрады Туджмана, як вынікае з выказваньняў фанаў, расчараваныя палітыкай, пакінуць яе й утворыцца звычайны эўрапейскі фан-клюб.

Наіўна думаць, што менавіта футбол сваліў былога югаслаўскага генэрала – эканамічныя цяжкасьці, якія перажывае краіна на ўзьбярэжжы Адрыятыкі ёсьць больш важкім палітычным фактарам, але гісторыя з *BBB* і *Dinamo* рэльефна дэманструе ўсё большае раздражненьне, якое выклікаюць у жыхароў посткамуністычных дзяржаваў аўтарытарныя формы кіраваньня.

**Аляксей ЧАРНЯЕЎ,**
**паводле Transitions**

ЗАМЕЖЖА

# МУЗЫКІ Й БІСКУПЫ СУПРАЦЬ ДАЎГОЎ

Як паведаміў музычны канал MTV, група вядомых музыкаў, "зорак" першае велічыні, выступіла зь ініцыятываю скасаваньня даўгоў краінаў трэцяга сьвету.

Акцыя атрымала адпаведны ідэі назоў: "Drop the Dept" ("скасаваць даўгі"). Да яе далучыліся багата вядомых гуртоў і выканаўцаў, сярод якіх Bono (лідэр групы *U-2*), David Bowee, Kit Flint (*Prodigy*) – ён нават татуяваў на сьпіне заклік скасаваць даўгі,– Ennie Lennox, Dave Stewart, Robby Williams, PJ Harvy й Peter Gabriel.

У распаўсюджанай заяве яны кажуць, што крэдыты, ад пачатку прызначаныя для "галодных дзетак", выкарыстоўваюцца на працэнтныя выплаты па іншых крэдытах, абслугоўваньне асноўнае часткі пазыкі, і што такая палітыка ставіць на калені недаразьвітыя краіны.

Цікава тое, што рок- і поп-музыкі выступаюць салідарна з аўтарытэтнымі рэлігійнымі арганізацыямі. Нацыянальная біскупская канфэрэнцыя Бразыліі абвесьціла, што краіна ўжо сплаціла вонкавыя пазыкі. Крэдыторы думаюць інакш: Бразылія вінная ім яшчэ $200 млрд. "Даўно трэба зьмяніць лад, калі адныя дзяржавы багацеюць на фінансавай кабале іншых" – кажа віцэ-прэзыдэнт канфэрэнцыі біскупаў Марсэлу Кавальера. За сьпісаньне даўгоў выступае й Ватыкан.

Ня скажаш, што пачынаньне музыкаў – марная справа. Мэтай іхнае кампаніі ёсьць сьпісаньне прыкладна 11 мільярдаў даляраў ужо сёлета. І праблема гэтая можа быць вырашаная нават раней. Прыклад таму – Нямеччына, "левы" парлямэнт якой вызваліў напрыканцы мінулага году ад плацяжоў па пазыках Нікарагуа й Гандурас, якія пацярпелі ад тайфуну.

Гэткая практыка мае тэндэнцыю да пашырэньня, але ні Бразылія, ні тая ж Расея не атрымаюць выгодаў ад скасаваньня даўгоў, бо іхныя ўласныя запазычанасьці нагэтулькі вялікія, што сьпісаць іх бяз шкоды для сусьветнае фінансавае сыстэмы немагчыма. Расея ўдзельнічае ў праграмах дзеля скасаваньня даўгоў, але толькі ў якасьці... крэдытора.

# ДЫКТАТАРЫ ХОЧУЦЬ МЕЦЬ РАКЕТЫ

ЗША й Японія ўжо паўгады ўсур'ёз абмяркоўваюць пэрспэктывы стварэньня сыстэмы супрацьракетнай абароны тэатру вайсковых дзеяньняў (СРА ТВД) з радыюсам палёту, які ахопіць увесь Азіяцка-Ціхаакіянскі рэгіён. Праца ў гэтым кірунку актывізавалася пасьля ракетнага пуску зробленага таталітарным рэжымам Пхеньяна летась у жніўні. Тады адна са ступеняў паўночна-карэйскага апарату звалілася ў Японскае мора, а галоўная частка, пераляцеўшы Японскія выспы й нарабіўшы тамака панікі, трапіла ў Ціхі Акіян.

І вось цяпер стала вядома пра разгортваньне Паўночнай Карэяй балістычных ракетаў "Надон-1" з далечынёй палёту 1400 км, а, таксама пра распрацоўку гэтай краінаю, што жыве паводле камуністычных законаў "чучхэ", ракетаў "Тэпхадон-1" і "Тэпхадон-2". Апошняя, маючы радыюс дзеяньня 6400 км, можа лёгка дасягнуць тэрыторыі Злучаных Штатаў, не гаворачы ўжо пра Паўднёвую Карэю й Японію.

Пэнтагон ужо выказаўся за павелічэньне ў наступным фінансавым годзе выдаткаў на стварэньне памянёнае вышэй СРА ТВД. "Пэрспэктывы стварэньня некаторымі краінамі ракет далёкага бою сталіся ня гэтулькі аддаленымі, як меркавалася раней," – тлумачыў гэтыя пляны на брыфінгу ў Белым доме спэцыяльны дарадца прэзыдэнта ЗША па пытаньнях абароннае палітыкі й кантролю над узбраеньнямі Робэрт Бэл. "Хуліганскія" дзяржавы кшталту Паўночнае Карэі й Ірану, – ён працягваў, – распрацоўваюць ракетныя комплексы, здольныя зьнішчаць аб'екты на амэрыканскай зямлі".

Японскі ўрад, які пасьля леташняга жнівеньскага здарэньня замарозіў праграму харчовае дапамогі ваяўнічым паўночнакарэйцам, заяўляе, што прыме больш рашучыя захады, калі стане адназначна вядома пра разгортваньне ў КНДР ракет "Надон-1".

**Вадзім КАРЦАЎ,**
**паводле матар'ялаў замежнае прэсы**

ШЛЯХ

**Пошукі беларускае нацыянальнае ідэі напрыканцы XX стагодзьдзя прывялі да невясёлага выніку: ідэі, якая б злучыла вакол сябе нацыю, няма. Ёсьць розныя гледзішчы на тое, куды інтэгравацца й з кім жыць, як будаваць сваю дзяржаву й на якім абшары. Аднак гэта толькі прыватныя моманты, што дагэтуль ня могуць сысьціся ў адно й скласьці падваліны, на якіх можна было б збудаваць Беларускі дом для ўсіх, а ня толькі для асобна ўзятых прадстаўнікоў нашага народу.**

# СУПОЛЬНАЯ ІДЭЯ

## *Развагі пра нацыянальную ідэалёгію*

І як ня вабіла б нас нацыянальная культура, не для ўсіх яна найвышэйшая каштоўнасьць, гэтаксама, як ня ўсе хочуць жыць адною каўбасою. Ёсьць жа людзі, якія пражылі немалую частку свайго жыцьця й дагэтуль не разумеюць: дзеля чаго яны прыйшлі на гэтую зямлю? Ім хочацца есьці (натуральнае жаданьне кожнага чалавека), але гэта не задавальняе патрэбы істоты, наадварот, яны шалеюць ад безвыходнасьці свайго марнага йснаваньня. Давялося аднойчы быць сьведкам аднае сямейнае сваркі, калі муж з жонкаю лаяліся, даказваючы нікчэмнасьць і непатрэбнасьць адно аднога ў гэтым сьвеце. Урэшце, да высновы – хто мае рацыю – яны не прыйшлі. Як злучыць міжсобку аматараў мовы, каўбасы, таго й гэтага ды звычайных люмпэнаў? Мы рэдка ставім перад сабою гэтыя пытаньні. Бо патанулі ў марах аб нашай і толькі нашай Беларусі. З супрацьлеглага боку нас цягнуць у іхную ды толькі іхную імпэрыю, а пасярод стаіць бяз пэўнасьці электарат. Як у песьні: "Электарат галасуе, электарат выбірае..."

*І як ня вабіла б нас нацыянальная культура, не для ўсіх яна найвышэйшая каштоўнасьць, гэтаксама, як ня ўсе хочуць жыць адною каўбасою*

У 1994 годзе народ не пайшоў ані за ўладаю, ані за апазыцыяй, а выбраў "нэўтральны" шлях. Наколькі ён быў гэткім, мы запэўніліся, але першая каманда Лукашэнкі досыць блізка падышла да сфармуляваньня беларускае нацыянальнае ідэі, якая б задаволіла ўсіх. Ці можна гэтак казаць пра нацыянальную ідэю? Мяркую, што на'т калі мець на ўвеце, што нацыяналісты выступаюць за аб'яднаньне ў адной нацыянальнай дзяржаве ўсіх этнічных земляў свайго народу, дык гэта не супярэчыць ідэі накарміць люд ды забясьпечыць яму заможнае жыцьцё. Не абавязкова, каб народ ведаў пра ўсё, можна сказаць сьпярша толькі тое, што яго хвалюе, а потым, праз асягненьне гэных патрэбаў, ён пойдзе за элітай, якой будзе давяраць. І калі накормленаму народу вярнуць ягоны спрадвечны сьцяг, дык гэтае ўспрымецца, як абавязковая прыступка да дабрабыту й лепшага жыцьця. Дарэчы, бел-чырвона-белы сьцяг не выклікаў ніякіх пярэчаньняў у народзе, калі не лічыць народам камуністычную партыю. Праз год пасьля рэфэрэндуму'95 у цягніку размаўлялі дзьве каляжанкі. На пад'езьдзе да вакзалу, гледзячы ў бок Белага дому адна запыталася: "А чаму над Домам ураду іншы сьцяг?" "А дык той жа адмянілі... гэта быў нацыяналістычны сьцяг", – адказала другая. Першая ня сьцяміла: "Бел-чырвона-белы? Мне ён падабаўся... не разумею". Распальваньне нацыянальнае варажнечы рабілася ўпотайкі пад прыкрыцьцём "волі народу". Пасьля рэфэрэндуму мая суседка даслала гнеўны ліст: "Пусть живет Сталин, Россия и Лукашенко. Беларусь отняла СССР. Верните нам русский язык!" Прымітыўна, але пасьля мы пазьбягалі размоваў на тэму палітыкі.

Мяркую, што нацыянальная ідэя павінная мець дакладныя фармулёўкі, бо кожнаму беларусу мусіць быць дадзены адказ: чаму гэтак ёсьць і як мусіць быць. У ранейшых спробах сфармуляваць нацыянальную ідэю нічога гэткага папросту не назіралася. Ігнат Абдзіраловіч у сваім філязафічным трактаце "Адвечным шляхам" "пакінуў" беларусаў на раздарожжы паміж Эўропай і Азіяй. Гэта, аднак, зь сёньняшняга гледзішча не рацыйна. Паводле Рыскае ўмовы 1921 году Беларусь была падзеленая паміж Польшчаю й Расеяю, аднак напрыканцы гэтага стагодзьдзя ёсьць якая-нейкая беларуская дзяржава з сваімі, хай не заўжды рэальнымі, межамі і ўмацоўваць яе трэба – зараз, але так, як гэтае зараз робяць апалягеты дэмакратыі й незалежнасьці... Даруйце, цяжка зразумець, як і што робіцца. Мусіць быць плян – яго няма. Ня зроблена нічога: Кангрэс дэмакратычных сілаў мінуў безвынікова, парлямэнт ня мае ўлады, дзесьці за акіянам сядзяць "радныя" БНР, кожнаму карціць стацца лідэрам. Лідэр нацыі – гучыць горда! Адзін далідараваўся, але аказаўся кепскім "бацькам". Няўжо займеем лепшага? Безь ідэі нацыянальнага згуртаваньня немагчыма збудаваць ані заможнага гаспадарства, ані стацца годным свае пасады галавою краіны. Ці думае пра гэта спадар Чыгір? Не вакол жа сьнегу гуртуюцца гэтак усхваленыя ў ягоным інтэрвію "НН" фіны.

Беларуская палітычная эліта адрэзала сябе ад рэаліяў, але, што яшчэ горш, прыпадабнілася да свайго электарату й змаргіналізавалася, амаль паўсюдна: людзі з пустымі вачыма, бяз мэтаў, толькі з стандартнымі фразамі, густа пераплеценымі даўна вывучанымі лёзунгамі. Хіба за маргіналамі пойдуць маргіналы? Каб заваяваць прыхільнасьць бальшыні, ня трэба пад яе падладжвацца, наадварот, люд мусіць імкнуцца быць падобным да сваіх лідэраў ды йсьці за імі (натуральна, калі яны не ўхваляюць гітлераўскі фашызм ды ў наўпроставым эфіры ня лаюцца). Ідэя, якая б злучыла беларускае насельніцтва ў народ (нацыю) – гэта справа ня будучыні, а цяперашчыны. У злучанай грамадзе вылучыцца й лідэр.

А хто там ідзе, а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?

**Віктар МУХІН**

НАЙНОЎШАЯ ГІСТОРЫЯ

## У Чачэніі крадуць генэралаў, у Беларусі — генэралісымусаў

**29 сакавіка 1999 г. у судзе Кастрычніцкага раёна г. Віцебска адбыўся суд над вядомым актывістам апазыцыі, старшынём Віцебскае Рады БНФ "Выбар" Уладзімерам Плешчанкам. Яго абвінавацілі паводле арт. 201 ч.2 (злоснае хуліганства) і арт. 225 (зьнішчэньне гісторыка-культурных помнікаў) Крымінальнага Кодэксу РБ.**



Фота Праваабарончага цэнтру "Вясна–96"

Гісторыя гэтая пачалася даўна, яшчэ ў 1952 г., калі перад будынкам ваенкамата ў слаўным Віцебску ўсталявалі бюст мілага расейскаму сэрцу генэралісымуса Суворава. Мабыць, мужная ваенкамаўская раць мела на ўвазе натхніць прызыўнікоў вастраносым профілем імпэрскага ката. Лёсам наканавана было, каб

# У ПОШУКАХ АДНАГО БЮСТА

*Сучасны беларускі дэтэктыў (віцебская вэрсія)*

іхныя спадзяваньні спраўдзіліся. Але толькі праз 46 гадоў.

Сьведкі ня памятаюць ці была ноч на 1 верасьня 1998 г. неяк асабліва таямнічай. Калі й была, дык спадар, – цьфу, Пазьняк паблытаў – таварыш Г.Заблоцкі – галоўны сьведка абвінавачаньня і адначасова намесьнік начальніка Кастрычніцкага РАУС г. Віцебска – наўрад ці заўважыў. Паводле службовых абавязкаў ён зважаў на іншыя рэчы. А тымчасам зоры на нябёсах склаліся ў адмысловую камбінацыю, трывожна зашапацела лісьце на дрэвах – сусьветны гадзіньнік нячутна празваніў гадзіну Х (ікс, а ня хэ). Невядомы прызыўнік натхнёны паліраваным ілбом бязрука-бязногага вайскаводцы, на якім бліішчаста гралі промні жоўтага месяца, адарваў цяжкі бюст ад пастамэнту й зьнік у скаваных мёртвым спакоем восеньскага сну віцебскіх дварох.

Страшны пярэпалах узьняўся ў горадзе наступным днём, міліцэйскія патрулі прачэсвалі завулкі й двары ў пошуках дэмантаванага генэралісымуса й вінаватых. "Эта ўсё прадзелкі NATO!" – упэўнена сьцьвярджалі сьсівелыя вэтэраны чэ-ка. Але халодныя міліцыянцкія галовы меркавалі йнакш: ёсьць жа ў нас і ўнутраныя ворагі! Сьлед павінны быць побач. Неўзабаве, пільнае вока ахоўнікаў рэжыму разгледзела адбітак варожага чаравіка і адарваны гузік на месцы "злачынства". Удалося адшукаць і А.Суворава, які валяўся ў недалёкім двары. Ад прыроды маўклівы бюст паказаньняў ня даў, але віцебскія хольмсы ўжо прыдумалі сабе вэрсію.

2 верасьня 1998 г. быў арыштаваны і абвінавачаны ва ўдзеле ў дэмантажы помніка А.Суворава актывіст Віцебскай Рады БНФ "Выбар" Уладзімер Плешчанка. Тым жа днём супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа, ён быў зьняволены ды ўтрымліваўся ў віцебскім СІЗА на працягу сямі з паловай месяцаў. Вінаватым Плешчанка сябе не прызнаваў і адмаўляўся даваць сьледзтву любыя паказаньні.

Першыя слуханьні справы пачаліся яшчэ 16 сакавіка 1999 г., але пасьля пачатку працэсу нечакана высьветлілася, што Плешчанка ня можа азнаёміцца з абвінавачваньнем таму, што ў яго на руках няма належным чынам афармленага абвінаваўчага заключэньня. Дакладней у яго на руках быў толькі першы ліст, але ажно тры асобнікі. Пасьля такога грубейшага парушэньня судзьдзя ня мог працягваць разгляд справы, і суд быў перанесены на 26 сакавіка 1999 г. Пасьля таго як сьледзтва і пракуратура выправіла гэты недахоп, працэс пачаўся па новаму. У ходзе судовага разьбіральніцтва былі заслуханыя і апытаныя галоўныя сьведкі, якія праходзілі па справе. Вось тут зноўку выходзіць на сцэну падпалкоўнік Г.Заблоцкі. Менавіта ён заявіў, што бачыў а трэцяй гадзіне ночы, паблізу ад бюсту, Уладзімера Плешчанку, Барыса Хамайду і быццам бы Юрася Карпава. Усіх трох вышэйзгаданых асобаў сьведка ведаў як актыўных сябраў Беларускага Народнага Фронту, за што і не любіў. Калі падчас суду бравага міліцыянта папыталі, як ён ставіцца да фронтаўцаў, той аж зьдзівіўся: што ж тут, маўляў, думаць – хапаю й пратакол складаю! А яшчэ памятаў шэрыф раённага значаньня, як падчас аднаго з апазыцыйных шэсьцяў У.Плешчанка скандаваў: "Ганьба Сувораву!". Незразумела таварышу Заблоцкаму, што ў Беларусі ўвогуле ня любяць акупантаў.

(далей будзе)

Чэслаў **АЛЕЙНІК**

ВАЧЫМА СУСЕДЗЯЎ

# ЗАВАЯВАЦЬ СЬВЕТ МУЗЫКАЙ

## *Ці здольная сучасная ўкраінская музыка заваяваць сьвет (псэўданавуковае дасьледаваньне)*

**"МФ" прапануе амбітны матэрыял з украінскага маладзёвага часапісу "Смолоскипи" прысьвечаны музычнай моцы ўкраінскага народу. Мяркуем, што калі б нехта ўзяўся шукаць у сусьветнай музыцы беларушчыну, таксама мог бы знайсьці шмат вартага ўвагі.**

**"ВВ": ВЕСНА ПРИЙДЕ!**

Ці ё падставы казаць пра посьпех сучаснае ўкраінскае музыкі ў сьвеце, калі ў самой Украіне пануе нізкавартасна-крымінальная "попса" і "блатняк", а таксама заходні "непатрэб" – жуйка для ўсіх накшталт вычарпанага Майкла Джэксана ці "Coco Jambo".

Аказваецца, падставы ё. Бо ёсьць перадгісторыя, ёсьць таленавітыя выканаўцы-прафэсіяналы. Перадгісторыя сягае мінулых стагодзьдзяў. Скажам, "шлягер" 18 – пачатку 19 ст. "Ехаў казак за дунай" Сэмэна Клымоўськага – песьня, што пакарыла бальшыню эўрапейскіх краінаў, зафіксаваная й як шатляндзкая народная песьня (?!). Ейную апрацоўку для фартэпіяна зрабіў Людвіг ван Бэтховэн. У Японіі й да гэтага часу надзвычай папулярны ўкраінскі раманс "Узяў бы я бандуру". Украінскія мэлёдыі выкарысталі самыя розныя клясычныя сусьветныя кампазытары. А сама Ўкраіна дала сьвету геніяў барока Дзьмітрыя Бартнянскага,Максіма Беразоўскага, Арцемія Вэдэля, клясыкаў Ільлю Чайкоўскага, Міколу Лысенка, Ігара Стравінскага. Але гэта "поп-музыка" мінулых часоў.

Што ж да другой паловы 20 стагодзьдзя? Сапраўднымі шлягерамі (больш для краінаў-сатэлітаў СССР ды ўкраінскай дыяспары) сталі "Черемшина", "Марічка". "Червону руту" сьпявалі нават прадстаўнікі экзатычных народаў сьвету.

Але й заходні сьвет гады-ўрады дазнаваўся пра Ўкраіну. Як вам радок зь песьні славутых "The Beatles" "Back In U.S.S.R.": "Well, Ukraine's girls really knock me out, they leave the West behind..." ("Так, украінскія дзяўчаты спраўды мяне ўражваюць, накаўтуюць. Яны пакідаюць за сабою Захад")? Падабаецца? Пад уражаньнем канцэрту ў Кіеве, "Deep Purple" прысьвяцілі песьню "экзатычнай" украінскай дзяўчыне – "Стэфані".

Трапляліся адзінкавыя выпадкі, калі ўкраінцы (найчасьцей, народжаныя ў дыяспары) дасягалі посьпеху на Захадзе. Тут варта згадаць зорку60-х Мэляні (Мэланію Саўку), якая запісала некалькі "залатых" дыскаў.

Украінскага паходжаньня быў мастак "плянэтаранага" маштабу, які вельмі моцна паўплываў на ўсю попкультуру: ад жывапісу да кіно, Эндзі Варгол (Ўорхол) – сапраўднае імя Андрый Вархола. Ён, "бацька" мастацкага напрамку "pop-art", быў прад'юсарам славутага гурта "Velvet Underground".

**(далей будзе)**

**Аўтарызаваны пераклад з украінскае – Л. А.**

**• Набуду 1-ы том Беларускай Энцыкляпэдыі, 3-і том Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі, 2-і выпуск факсымільнага выданьня "Нашай Нівы". Тэл. (з 10⁰⁰ да 15⁰⁰) 227-78-66, Аляксей.**

**• Набуду HDD, можна ня новы, але ня надта дарага. Тэл. 215-71-58, Аляксей.**

**• Відэафільм "Пяты элемэнт" (ЗША, фантастыка, 1998) – па-беларуску! На касэце – 650 тыс. рублёў, запіс – 315 тыс. рублёў. Грошы, ці грошы з касэтай + 50 тыс. (перасылка) – на адрас: 220107, а/с 150, Станішэўскаму Віталю. Пазначыць зваротны адрас. Тэл. (017) 2407801**

**• РЭДАКЦЫЯ "МАЛАДОГА ФРОНТУ" шукае распаўсюднікаў у беларускіх навучальных установах. Зьвяртацца да Аляксея Шэіна, шточацьвер зь 19:00, Варвашэні, 8.**

**• Сябры й проста субутэльнікі віншуюць сп. Алеся Ч. з Днём перараджэньня й маральнага ўваскрэсеньня.**

КУПОН прыватнай абвесткі

**Вялікая просьба запаўняць разборлівым почыркам (не больш за 30 словаў)**

МАЛАДЫ ФРОНТ
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Заснавальнік і выдавец МАЛАДЫ ФРОНТ.

РЭДАКТАР: Аляксей ШЭІН

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Павал СЕВЯРЫНЕЦ, Вольга АНЦЫПОВІЧ, Сяржук ПАЎЛЕНКА, Алесь АСІПЦОЎ, Аляксей ЧАРНЯЕЎ.

ПАШТОВАЯ АДРЭСА: Менск, вул. Варвашэні, 8. "Для Маладога Фронту"

НАБОР: Сяргей МІХАЛЬЧУК

ДЫЗАЙН і ВЁРСТКА: Аляксей ЧАРНЯЕЎ